ДЫЯЛОГІ

# Міхась СКОБЛА – Віктар КАРАМАЗАЎ «Святла не знойдзе той, хто не пажыў у цемры»

*На пачатку лета жыццёвыя шляхі-дарогі прывялі мяне ў мемарыяльную сядзібу славутага расійскага мастака Васіля Паленава, што знаходзіцца на рацэ Ака за 120 кіламетраў ад Масквы. Даведаўшыся, што я з Беларусі, добразычлівая супрацоўніца папрасіла перадаць прывітанне ў Мінск – Віктару Карамазаву. І дадала, што ягоныя кнігі пра мастакоў – сапраўдныя шэдэўры, якія варта перакласці на замежныя мовы, бо ў іх з веданнем справы і адначасова папулярна паказаны вяршыні нацыянальнага беларускага мастацтва. А таксама са шкадаваннем прызналася, што на такім узроўні ў Расіі пра мастакоў даўно ніхто не піша. Прывітанне я, вядома ж, з прыемнасцю перадаў. Тады ж узнікла ідэя пагутарыць з аўтарам тых кніг, лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі імя Кастуся Каліноўскага Віктарам Карамазавым на старонках «Народнай Волі». І вось пісьменнік завітаў у рэдакцыю…*

## «На жаль, мы з землякамі духоўна разышліся…»

**– Віктар Філімонавіч, калі не памыляюся, у вас ужо выйшла дзесяць кніг пра знакамітых мастакоў. Ёсць вядомае выслоўе: каб зразумець паэта, трэба ісці ў ягоны край. А каб зразумець мастака, куды трэба ісці – у карцінную галерэю?**

– Кніг пакуль выйшла дзевяць, дзясятую чакаю. А зразумець мастака, адчуць яго душой нялёгка, бо ён не такі, як усе, ён – індывідуальнасць. З працытаваным выслоўем я не зусім згодны. Мне не трэба ехаць у Мікалаеўшчыну, каб зразумець Якуба Коласа. І ў Ясную Паляну я не паеду, каб зразумець Льва Талстога. Таленавіты твор даходзіць да чалавека, калі душа ў яго не глухая, бо мастацтва – гэта духоўная праўда і шчырасць. На жаль, калі я прыязджаю ў родныя мясціны на Магілёўшчыне, то пераконваюся, што землякі маіх кніг не чытаюць, нават калі пішу пра іх, ды і наогул кніг не чытаюць. Мы з імі духоўна разышліся, зрабіліся ўзаемна чужымі. Пра гэта цяжка гаварыць, але яшчэ цяжэй маўчаць. Тое самае часам адбываецца паміж гледачом карціны і яе стваральнікам. А карцінныя галерэі, безумоўна, наведваць трэба, каб захапляцца творамі высокага мастацтва. І заўсёды карысна ведаць, хто іх аўтар, якой ён крыві, адкуль родам, якая прырода яго ўзгадавала і натхніла.

**– Мне было вельмі прыемна, што вас ведаюць у Паленаве і нават зайздросцяць нам, беларусам, што ў нас ёсць такі пісьменнік. Са слоў дырэктаркі сядзібы, пра таго ж Паленава ніхто ў Расіі не напісаў гэтак пранікнёна, як вы напісалі пра мастакоў беларускіх – Вітольда Бялыніцкага-Бірулю, Станіслава Жукоўскага, Гаўрылу Вашчанку, Антона Бархаткова, Анатоля Бараноўскага…**

– У Паленаве я быў, калі працаваў над кнігай пра Бялыніцкага-Бірулю «Крыж на зямлі і поўня ў небе». Біруля і Жукоўскі вучыліся ў Васіля Паленава, прыязджалі на Аку да свайго любімага настаўніка, а мае там дні – лета 1989 года. У той час там гаспадарыў унук мастака Фёдар Паленаў, чалавек высокай культуры, былы капітан другога рангу, мастацтвазнавец і пісьменнік. Пашанцавала з ім блізка пазнаёміцца, за кубачкам кавы на тэрасе размаўляць пра мастацтва, літаратуру, духоўныя паленаўскія крыніцы, што паспрыяла мне ў далейшай працы. Гадоў праз 25 я атрымаў цёплы ліст ад Наталлі Грамолінай-Паленавай, якая пасля смерці мужа ўзяла на сябе адказнасць за сядзібу: «Дорогой Виктор! Приезжайте! Летом не зову, потому что многолюдно и суетно, а осенью тихо и благостно. Можно поработать, просто походить по окрестностям…» Была спакуслівая прапанова пажыць у адной з паленаўскіх святыняў – у старым, з тэраскай, драўляным дамку, былой лазеньцы, дзе жылі і працавалі класікі расійскай літаратуры Міхаіл Прышвін, Канстанцін Паустоўскі, Юрый Казакоў, дзе кампазітар Сяргей Пракоф'еў стварыў музыку да балета «Рамэа і Джульета»… На жаль, паехаць не атрымалася – перашкодзіла хвароба і аперацыя на сэрцы, пасля якой я праляжаў восем сутак у рэанімацыі.

## «Адмычка ад сейфа з прыгажосцю – у мастака»

**– Зусім нядаўна ў дзяржаўным выдавецтве «Беларусь» выйшла ў свет ваша новая кніга «Зямля Фердынанда» – пра Фердынанда Рушчыца. На вокладцы – самая вядомая яго карціна «Зямля». Гляджу на яе і міжволі ўспамінаю верш Уладзіміра Караткевіча «Ворыва на валах»: *«Я гэта бачыў сам, хоць адышло: / Ў апошні, можа, раз на белым свеце / Ішлі быкі і ворыва плыло, / А зверху – хмары, чырвань, сінь і вецер… / Ідуць па ўзгорках, круглых і цяжкіх, / За імі ільсняныя ў адвалах межы... / Як старажытныя князі, быкі / Маю радзіму на кавалкі рэжуць»*. Думаю, што верш быў пакліканы да жыцця менавіта гэтай карцінай, якая выяўляе сутнасць беларускую. Але ж Рушчыц, здаецца, лічыў сябе палякам?**

– Згодны, Рушчыц паказаў на гэтай карціне рэалістычны, не міфалагізаваны, вобраз Беларусі. Але ў яго валах я не бачу князёў. Чаму? Зазірнём у дзённік мастака. Напісаць «Зямлю» з валамі ды мужыком яго натхніла маці. Убачыўшы карціну, яна сказала сыну: «Я ўспомніла, як мы ішлі на бульбу, пра валоў… Як поле аралі, усіх маё маладое сэрца любіць хацела, усім спачувала – і мужыкам, і валам. І ты цяпер тым маім сэрцам напісаў. Як змог?» І сын адказаў: «Змог, мама. Бо гэта таксама маё поле і мае валы». Што да Караткевіча, то ён быў рамантыкам, рамантызаваных перахлёстаў у яго творах шмат. Не думаю, што яго на князёў «вывелі» Рушчыцавы валы, хоць карціну ён, вядома ж, мог бачыць, грунтоўна ведаючы гісторыю нацыянальнай культуры. А паляк ці не паляк Рушчыц? Яго бацька – паляк, маці – датчанка. У сям'і шанавалася і польская культура, і дацкая, і беларуская. Ды і жыць без Багданава, сваёй роднай беларускай вёскі, Фердынанд не мог.

**– А ці абапіраўся Рушчыц на айчынную гісторыю? Ці яна яго як пейзажыста не дужа цікавіла?**

– Цікавіла, і моцна. Пра гэта ў маёй кнізе нямала старонак, хоць бы эпізод, як узімку на кані Фердынанд едзе з сябрам у Крэва, як там піша пейзаж з парэшткамі замка пад сябраў аповед пра княскія двубоі ў замку, яго кроў і попел, славу і заняпад. Пра тое сведчыць і «Пан Тадэвуш» Адама Міцкевіча – любімая кніга ў сям'і Рушчыца.

**– Да вас у беларускай літаратуры ніхто не адважваўся пісаць аповесці ці раманы пра славутых жывапісцаў. А што вас больш захапляе ў мастаках – карціны ці лёсы?**

– Для мяне галоўнае – асоба мастака, а напісаныя ім карціны я разглядаю як ілюстрацыі яго душы, створаныя ў суаўтарстве з жывой прыродай. Праз іх мне цікава ўвайсці ў глыбока схаваны ад чужога вока свет творцы, бо там, упэўнены, ратунак не для аднаго мяне – для ўсіх. Я хачу дапамагчы свайму чытачу гэта зразумець і тым падказаць, як уратавацца. Памятаеш словы Дастаеўскага «прыгажосць выратуе свет»? А ў каго адмычка ад сейфа з прыгажосцю, як не ў мастака?

**– На жаль, сучасны свет забыўся на формулу Дастаеўскага, шмат хто не верыць у выратавальную місію мастацтва.**

– Шмат хто не верыў і Маісею, які выводзіў людзей з рабства. А ў наш час не верыць той, хто не ведае аднаго з асноўных законаў мастацтва – закона кантрастаў. Святла не знойдзе той, хто не пажыў у цемры, хто зміры ўся з пачварнасцю, бездухоўнасцю, маральным брудам. Дастаеўскі перад тым, як так выказацца, пабачыў і цемру, і святло.

## «Нашы геніі ва ўспамінах падобныя на муляжы ў залатых рамах»

**– Ці не самыя знакамітыя ў свеце кнігі пра мастакоў напісаў француз Анры Перушо, стварыўшы літаратурныя партрэты Ван-Гога, Рэнуара, Тулуз-Латрэка, Клода Манэ. У прадмове да кнігі пра Сезана ён падкрэсліваў: «Я даведаўся пра Сезана ўсё, што толькі пра яго вядома сёння. Я сабраў і супаставіў усе наяўныя матэрыялы, наведаў месцы, дзе ён жыў. Я не прывёў у кнізе ніводнага факта, які можна было б аспрэчыць». А вы ў сваіх кнігах, героі якіх таксама ж рэальныя асобы, на што абапіраецеся, на дакумент ці фантазію?**

– Бедны Перушо! У Францыі архівы пра мастакоў такія велічэзныя, што можна патануць у іх. Пра аднаго Каміля Каро, прызнанага бацьку імпрэсіяністаў, 10 тамоў успамінаў напісана! І там – жывы Каро, не захвалены, з усімі сваімі дзівосамі-выбрыкамі. У нас гэтак не пішуць. Нашы геніі ва ўспамінах падобныя на муляжы ў залатых рамах. Дзе ж тут знойдзеш цікавы ўспамін пра таго ж Жукоўскага, тым больш яшчэ ў 1923 годзе ён выехаў з СССР у Польшчу, каб пазбегнуць лёсу сваіх двух дзядзькоў, высланых у Сібір, і загнанага ў глухі кут бацькі – за ўдзел у паўстанні пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. І карціны Жукоўскага, і згадкі пра яго ў друку былі забаронены. Якія ж тут архівы і дакументы?

**– Дык як жа, іх не маючы, вы адважыліся пісаць пра рэальных людзей?**

– У мастаку мяне найперш цікавіць яго духоўная сутнасць, а не хроніка, не біяграфія, хоць усё гэта паміж сабой і яднаецца. Я не ствараю біяграфій. Для аповесці пра Станіслава Жукоўскага мне было дастаткова аднаго яго ліста з Варшавы ў Маскву да Бялыніцкага-Бірулі ды нейкіх фактаў іх сяброўства. Праўда, крытыкі чамусьці называюць мае кнігі пра мастакоў біяграфічнымі. Да гэткага жанру быў аднесены і мой раман «Мастак і парабкі» – пра расійскага мастака Мікалая Неўрава, які пераехаў жыць з Масквы ў Беларусь, у вёску Лыскаўшчына, што ў Круглянскім раёне. Мастак паважаў мясцовых мужыкоў, дапамагаў ім матэрыяльна, бараніў перад панам – дэспатам і рабаўніком Лупандзіным. Але – не мог пісаць з іх княскіх вояў, у чым і была яго трагедыя як творцы. І ў 1904 годзе Неўраў у Лыскаўшчыне скончыў жыццё самагубствам, там і пахаваны.

**– Раман «Мастак і парабкі», помніцца, вылучаўся на Літаратурную прэмію імя Гедройца.**

– Так, вылучаўся. Але калі я пазнаёміўся з закрытай рэцэнзіяй на яго і зразумеў усю ваколпрэміяльную механіку, убачыў, якія там прыярытэты і палітыка прысуджэння, я зняў раман з конкурсу і публічна, на сайце прэміі, патлумачыў, чаму так зрабіў.

**– Я чытаў раман і лічу яго адным з лепшых вашых твораў. Шмат ад каго чуў захопленыя водгукі пра яго.**

– Мне асабліва дарагі водгук народнага мастака Беларусі, прафесара жывапісу Акадэміі мастацтваў Анатоля Бараноўскага. Вось толькі адзін радок яго ўражанняў: «Там, дзе жывуць халопы, няма месца мастаку». Бараноўскі ўбачыў у творы галоўнае.

## «Кніг пра Бялыніцкага-Бірулю даўно няма ў кнігарнях»

**– Найбольшую вядомасць атрымала ваша кніга пра Бялыніцкага-Бірулю «Крыж на зямлі і поўня ў небе». Па ёй рэжысёр Валерый Басаў зняў поўнаметражны мастацкі фільм, а тэатральны рэжысёр Валянцін Ермаловіч паставіў спектакль. На малой радзіме мастака, у Бялыніцкім раёне, пачалі адбывацца пленэры, прысвечаныя Бялыніцкаму-Бірулю. Вас на іх запрашаюць?**

– Спачатку запрашалі, пазней перасталі. Асабліва ўрачыста прайшоў першы пленэр, які сабраў шмат гасцей, мастакоў з Беларусі, Францыі, Расіі, Польшчы, Балгарыі, Украіны, Літвы, Эстоніі. Гэта было сапраўды народнае свята. Помніцца, пасля майго выступлення на адкрыцці з-за стала прэзідыума выйшаў ці не самы аўтарытэтны госць пленэра, народны мастак Расіі, акадэмік расійскай Акадэміі мастацтваў і многіх акадэмій свету Валянцін Сідараў і звярнуўся да залы: «Я пражыў доўгае жыццё ў мастацтве, але ўпершыню пачуў і прачытаў такое бліскучае слова пра жывапісца. Шчыры вам паклон за вашу выдатную кнігу пра геніяльнага мастака Вітольда Каятанавіча Бялыніцкага-Бірулю». Абхапіў мяне, а ўсе прысутныя падняліся і запляскалі ў далоні... Хіба такое забудзеш?

**– «Крыж на зямлі…», здаецца, па-руску не выходзіў. Сідараў яго па-беларуску прачытаў?**

– Так, у арыгінале. Я яму кнігу незадоўга перад тым у Мінску падараваў. Ацэнка Сідарава мяне вельмі ўзрушыла, бо ён аўтарытэтны мастак і пісьменнік, да таго ж ведаў Бялыніцкага-Бірулю жывым. Мастакі падчас пленэраў вандруюць па Магілёўшчыне, пішуць, ладзяць перасоўныя выставы. Гэта, можна сказаць, вандроўная школа выхавання людзей мастацтвам.

**– Дык чаму вас перасталі запрашаць у тую школу? Вы ж, можна сказаць, нанава адкрылі Беларусі Бялыніцкага-Бірулю.**

– Камусьці, мабыць, я на тых пленэрах надакучыў. Там у мяне звычайна пыталіся, дзе набыць кнігу пра мастака. А што я мог параіць, калі яе даўно няма ў кнігарнях? Адсылаў зацікаўленых да кіраўнікоў нашай культуры, якія бывалі на пленэрах. І сам ім казаў, што кнігу трэба перавыдаць, калі яна працуе, ёсць попыт на яе. Трэба нарэшце выдаць і добры альбом твораў Бялыніцкага-Бірулі. Мы да гэтай пары яго не маем, хоць альбомаў іншых мастакоў выходзіць нямала. Мне першыя пленэры шмат далі. На іх я быў побач са сваімі будучымі літаратурнымі героямі – Гаўрылам Вашчанкам, Антонам Бархатковым, Анатолем Бараноўскім, бачыў іх у працы на прыродзе.

**– Сёлета адзначалася 90-годдзе Вашчанкі, вялікага нацыянальнага мастака, пра якога вы напісалі выдатную аповесць «Брама». Ён жа яе «дапамагаў» вам пісаць – сваімі аповедамі. Як вам з ім працавалася?**

– Няпроста, але цікава. Звычайна я не шукаю роўных, гладкіх адносін са сваімі героямі, не абвастраю супярэчнасцяў, але і складаных сітуацый не пазбягаю, бо ў іх часта выяўляецца творчы тэмперамент, характар чалавека, без чаго не атрымаецца мастацкі вобраз і, урэшце, твор. Найбольшая складанасць працы з Вашчанкам была ў тым, што ён быў побач, глядзеў мне ў вочы яснымі і чыстымі, разумнымі вачыма, у якіх я пастаянна бачыў, не без лёгкага хваляваня, вышыню і жыццёвага досведу, і думак, і пачуццяў. Аднойчы Вашчанка завёў мяне да сябе ў майстэрню, дзе я апынуўся ў палоне яго «іканастасу» – сцяны з развешанымі карцінамі з найдаражэйшымі яму вобразамі бабулі, дзеда, маці, жонкі, роднай хаты, свайго бору, свайго дуба, свайго бусла, роднага Палесся…

**– Палессе ў Вашчанкі сапраўды нейкае прыцягальнае – вачэй не адарваць.**

– Згодзен. А праз пэўны час я прывёз мастаку старонак 25 машынапіснага тэксту. Ён прачытаў і сказаў: «Я не чакаў, што вы гэтак убачыце і прачытаеце мае работы». Тады я зразумеў, што мастак наогул можа быць без усякіх амбіцый, чыюсьці думку пра свой твор можа прызнаць не горшай за сваю, нават калі яны разыходзяцца. Далейшая праца над аповесцю пайшла спарней, і калі мне заставалася дапісаць апошні раздзел, мы зноў сустрэліся. Вашчанка паказаў тры новыя эцюды. Прыгледзеўшыся да іх, я сказаў, што бачу тут працяг аповесці. Мастак скептычна ўсміхнуўся. Праз колькі дзён я паклаў перад ім тры новыя навелы і выйшаў у суседнюю майстэрню, да Бараноўскага. Гаўрыла Харытонавіч прачытаў тыя навелы, ухваліў іх і падараваў мне адзін з эцюдаў з надпісам: «Хай берагуць цябе і Бог, і твой анёл». Цяпер падарунак вісіць над маім пісьмовым сталом. Сеўшы за працу, я бачу перад сабой высокае неба мастака, анёла з трубой у небе, чую гук яго трубы і разам з ім, тым, з неба, гукам чую мяккі голас Вашчанкі, яго зычлівае дабраславенне. І працую.

## «Кнігі пра Гаўрылу Вашчанку з яго галерэі ў Гомелі мне вярталі назад»

**– Адзін з раздзелаў аповесці «Брама» пачынаецца інтрыгоўна: «У майстэрню мастака наведаўся цар. І не маскоўскі, і не піцерскі. Свой, як кажуць на Палессі, падцарак спусціўся з кручы Дняпра». І далей – як няпроста пісаў мастак партрэт таго цара-падцарка. Звычайна мастакі не афішуюць падобныя заказы. А Вашчанка?**

– Аднойчы я зазірнуў да Вашчанкі і застаў яго за мальбертам, а на мальберце – незакончаны партрэт. Мастак зняў яго і паставіў на падлогу, каб я не бачыў. Але другім разам я той партрэт усё ж пабачыў. Выразныя сляды ад наждаку і мастыхіна сведчылі, як цяжка партрэт даваўся мастаку. На ягонае «Пазналі?» я адказаў сцвярджальна і пацікавіўся: ці шмат разоў натуршчык заглядаў у майстэрню, колькі даў сеансаў? «Ды толькі два…» Так у кнізе з'явілася навела «Партрэт». Калі яна выйшла, я з ёй да Вашчанкі, а ён рады: «Вязі ў Гомель, у Брагін – землякам». Я і павёз. Пайшлі сустрэчы з чытачамі па школах, ВНУ, бібліятэках. Усім кніга цікавая, жаданая. Усё, што прывёз, раскупілі. Вязі яшчэ! Праз які месяц прывёз, а ўжо не чуваць тых галасоў, не відаць тых рук, што зусім нядаўна цягнуліся да кнігі, – нікому яна не патрэбная. Званю ў Брагін, адкуль родам мастак, і там мяне не хочуць бачыць. Я звярнуўся ў гомельскую галерэю Вашчанкі, дзе сотні яго карцін – дар гораду і роднаму Палессю. А мне кнігі, якія ўжо ўзялі, вяртаюць назад! Што адбылося? Аказваецца, нейкі высокі чыноўнік пазнаў у тым царыпадцарку сябе. Пытаюся: той чыноўнік у Гомелі? Так, у Гомелі. А Гомель на якой рацэ стаіць? На Сажы. Дык жа ў маёй кнізе мадэль жывая з горада, што на Дняпры, а Дняпро – у Магілёве… Усё ж кніга накладам 2500 асобнікаў разышлася, у кнігарнях ужо не знайсці. Яе чытаюць.

**– А гэта галоўнае для пісьменніка. Высока ацэнены вашы кнігі і ў Саюзе мастакоў Беларусі – на апошнім з'ездзе вас прынялі ганаровым сябрам у гэту творчую арганізацыю. Прычым аднагалосна, хоць там людзі з рознымі эстэтычнымі і палітычнымі поглядамі. Саюз мастакоў – гэта больш за тысячу патэнцыйных чытачоў. Вы рады такому папаўненню кола вашых прыхільнікаў?**

– Я рады, што мае кнігі прызнаны і мастакамі. Атрымаўшы на тым з'ездзе пасведчанне, я ўспомніў, як яшчэ ў 1941 годзе, калі фашыст ганяў мяне, сямігадовага, па Расіі ў трантах бадзягі, я трапіў пад Ульянаўскам у прытулак на патронным заводзе і быў прыпісаны да «красілкі». Там стаялі бочкі з фарбамі – зялёнай, белай, чорнай, і ляжалі штабялі скрыняў пад снарады ды патроны. Зялёнай мы, пацаны, фарбавалі скрыні, а чорнай праз трафарэты наносілі літары і лічбы – рабілі маркіроўку. Помніцца, ідзеш у сталоўку ці ў лазню і чуеш: «мастак ідзе», «прапусці мастака», «карміце мастака»… На нас, пацанах, былі вялікія, не па гадах, гімнасцёркі, ватоўкі, дзе-нідзе на дзірках, прабітыя на салдацкіх плячах снараднымі асколкамі, перапэцканыя зялёнай, чорнай і белай фарбамі. Тыя салдацкія, яшчэ з парахавым пахам, апранахі мы насілі на сабе з гонарам, як сапраўдныя франтавыя мастакі. Так што мастацкі стаж у мяне – з 1941 года, і я хіба адзіны такі ў сённяшнім Саюзе мастакоў.

СЛЫШАЛИ?

## Чиж уходит?

*С начала недели в спортивной среде все активнее обсуждаются слухи о скором уходе Юрия Чижа из футбольного клуба «Динамо-Минск». Известный бизнесмен пока предпочитает воздерживаться от комментариев.*

По информации источников SPORT.TUT.BY, в последние два года финансовый вклад компаний Юрия Чижа в «Динамо» сильно уменьшился.

Сам Чиж на просьбу прокомментировать эту информацию ответил: «Слухи не комментирую».

Среди возможных новых собственников называется Минский горисполком, где по этому вопросу предложили перезвонить на следующей неделе, так как начальник главного управления спорта и туризма Сергей Фурманов находится в отпуске. Сам Фурманов при этом уточнил, что клуб и так находится под крылом города, а информации об уходе Юрия Чижа у него нет.



В минском «Динамо» пообещали прокомментировать новость в самое ближайшее время.

По информации «Прессбола», новым собственником может стать либо одна из государственных структур, либо белорусская частная компания – предположительно из сферы IT.

Еще в 2016 году сообщалось, что руководителем минского «Динамо» может стать многолетний друг и бывший компаньон Юрия Чижа по бизнесу Владимир Япринцев, который также оказался в СИЗО летом 2015 года, когда Юрий Чиж написал на Япринцева заявление в КГБ.

ИНИЦИАТИВА

## Лучшая благодарность врачу – улыбка пациента

*В Беларуси будут искоренять практику дарения подарков врачам в знак благодарности.*

Об этом рассказала начальник управления кадровой политики, учреждений образования Минздрава **Ольга Маршалко**.

По словам чиновницы, при посещении больницы в одной из прибалтийских стран она обратила внимание на надпись "Лучшая благодарность врачу – улыбка пациента", которая была размещена на дверях у кабинета врача.

*«Таким образом здесь профилактировали всевозможные «благодарности» со стороны пациентов*, – цитирует belta.by чиновницу. – *К слову, очень часто такая инициатива исходит именно от пациента, а не врача»*.

Могут ли появиться такие надписи на дверях врачей Беларуси?

*«Мы рассматриваем такую возможность*, – говорит Маршалко. – *Активно изучаем этот опыт. Насколько нам известно, он приносит свои плоды»*.

ДЫСКУСІЯ

# Аддаць зямлю! Каму?

Я заўважыў: на старонках "Народнай Волі" часта выступае Аляксандр Заранок з Калінкавіцкага раёна. І амаль ва ўсіх сваіх публікацыях ён упірае на адну ідэю: зямлю трэба перадаць у прыватныя рукі, калектыўныя сельскія гаспадаркі ў выглядзе розных кааператываў, таварystваў лепш за ўсё распусціць.

З тым, што зямля павінна мець гаспадара, я згодны. Дзяржава і яе ўлады не ў сілах разумна арганізаваць працу людзей у кожнай вёсцы, у кожнай брыгадзе, на кожнай ферме. І не ўсё залежыць ад мясцовага кіраўніцтва. Той жа старшыня сельскагаспадарчага кааператыва ці таварыства не з'яўляецца ўласнікам зямлі, ён звычайны наёмны работнік, як, дарэчы, і ўсе яго падначаленыя – механізатары, жывёлаводы, будаўнікі, профільныя спецыялісты, іншы абслугоўваючы персанал. Паколькі ні зямля, ні сродкі вытворчасці ім не належаць, то адпаведнай зацікаўленасці ў выніках працы ў іх няма.

Вядома ж, трэба неяк, як кажуць, разрульваць сітуацыю. Але як? І вось тут, на мой погляд, спадар Заранок не ва ўсім мае рацыю. Яго прапановы спазніліся як мінімум на трыццаць-сорак гадоў. Калі б тады, у шасцідзясятыя-сямідзясятыя гады, на дзяржаўным узроўні прынялі рашэнне аб прыватызацыі зямлі, згортванні калгасаў і саўгасаў – толк, мабыць, быў бы. У вёсках людзей хапала, у тым ліку тых, у каго, вобразна кажучы, залатыя рукі. І яны цягнуліся да зямлі, але не да нічыйнай, а да сваёй, уласнай. На жаль, палітыка вярхоў не давала ім магчымасці стаць гаспадарамі. Яны з ранку да вечара пякліся на калгасна-саўгасных палетках, зарабляючы так званыя працадні, за якія выдавалі мізэрныя грошы, а то і расплачваліся натурай – збожжам, бульбай і гэтак далей. Калі б у той час улады спрыялі развіццю тых жа фермерскіх гаспадарак, то цяпер дзяржава не ўкладвала б мільярдныя сродкі ў аграпрамысловы комплекс, не стаяла б пытанне, што рабіць са стратнымі прадпрыемствамі.



Улады ўпусцілі вось гэтыя апошнія дзесяцігоддзі. І сёння можна весці размову наконт таго, што зямля павінна належаць таму, хто яе апрацоўвае, хто вырошчвае ўраджай, хто здабывае хлеб, мяса, малако, адным словам, хто корміць мільёны людзей. Я не кажу, у якой форме могуць аб'ядноўвацца ўласнікі зямлі, гэта асобная тэма. Але заўважу: сёння ставіць пытанне так, як ставіць спадар Заранок, немэтазгодна. Аддаць зямлю – каму?! У вёсках, у якіх некалі налічвалася сто-дзвесце двароў, сёння засталося вельмі і вельмі мала жыхароў, у асноўным пенсіянеры. Ім патрэбна зямля? Не, яны ўжо не спраўляюцца з прысядзібнымі ўчасткамі. Навакольныя ўгоддзі апрацоўваюць механізатары з аграгарадкоў ці цэнтральных сядзіб тых жа сельскагаспадарчых кааператываў.

І яшчэ адну акалічнасць трэба ўлічваць, калі вядзём размову пра прыватызацыю зямлі. Ну атрымае той жа вясковец трыццаць-сорак гектараў зямлі, што ён будзе з такім масівам рабіць? Купіць трактар – патрэбны грошы, а іх у яго няма. Набыць статак – зноў жа не так проста. А да таго ж: хто будзе яму дапамагаць, калі ў вёсцы рабочыя рукі наперадік?

Адным словам, праблема надзвычай вострая і складаная. Вузел, які моцна завязаны, адным махам не развяжаш. Таму я лічу, што трэба шукаць выйсце з таго становішча, якое склалася ў аграпрамысловым сектары эканомікі, але не дзейнічаць пугай з-за пляча. Ёсць сям'я, якая здольна заняцца фермерствам, – калі ласка, вось вам надзел зямлі, апрацоўвайце на здароўе! Ніякіх бюракратычных перашкод, ніякай абдзіралаўкі з боку падатковых органаў. Дзяржава, улады павінны ўсяляк падтрымліваць такіх рэдкіх людзей, якія яшчэ здольныя стаць сапраўднымі гаспадарамі на сваёй зямлі. А кінуцца ў кампанейшчыну – гэта значыць разбурыць нават тое, што маем.

На мой погляд, у краіне ёсць некалькі дзясяткаў моцных гаспадарак (пад рознымі шыльдамі), якія ні ў якім разе нельга чапаць. Няхай працуюць так, як працуюць. Яны набылі магутную тэхніку, якой патрэбна прастора – не невялічкія ніўкі, а плошчы ў трыццаць-сорак гектараў. І, мне здаецца, правільна дзейнічаюць рэгіянальныя ўлады, калі да рэнтабельных гаспадарак-гігантаў далучаюць суседзяў-небарак.

Каб развязаць зямельны вузел, патрэбны, паўтараю, час. Але гэта не значыць, што сёння ў гэтым накірунку нічога не трэба рабіць. Даўно наспела неабходнасць мець Закон аб прыватызацыі зямлі. Закон, які будзе спрыяць з'яўленню ў Беларусі тых людзей, якія атрымаюць усе правы на разумнае гаспадаранне на зямлі.

**Сяргей ХАЛАДОВІЧ,**
**былы аграном.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

# Ці будзе Марш салідарнасці?

*Хацеў бы ведаць: можа, плануюцца нейкія масавыя мерапрыемствы ў падтрымку журналістаў, якія праходзяць па "справе БЕЛТА"?*

**Пётр ІВАНОЎ.**

*Гродна.*

Заяўка на правядзенне Маршу салідарнасці з журналістамі днямі была пададзена. Плануецца, што Марш пройдзе ў сярэдзіне верасня па цэнтры Мінска з мітынгам на Плошчы Парыжскай камуны.

Адным з заяўнікаў акцыі выступіў сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя» Віталь Рымашэўскі:

«*Правядзенне дэманстрацый і мітынгаў у падтрымку рэпрэсаваных – гэта адно з многіх дзеянняў салідарнасці, якія могуць праявіць беларусы для таго, каб спыніць рэпрэсіі*, – цытуе яго словы bchd.info. – *Улады павінны ведаць: беларусы разумеюць, што адбываецца. Яны гатовы бараніць адзін аднаго ад беспадстаўных нападак сілавых структур. Мы таксама будзем рыхтаваць іншыя формы салідарнасці, праводзіць мерапрыемствы ў Минску і рэгіёнах, каб як мага больш беларусаў даведаліся пра несправядлівыя перасьледы і змаглі выступіць у падтрымку*».

ЛИЧНОЕ

# Моя молитва

Многие знают сказку «Маугли». Ее написал английский писатель и поэт Редьярд Киплинг, который долгое время жил в Индии. О его таланте говорили Горький, Куприн, Бунин.

Есть у Киплинга стихотворение, которое называется «Заповедь». В советское время его часто исполняли чтецы с эстрады. Для меня оно – одна из лучших молитв. И среди своих знакомых я часто его читаю. В этом произведении прославляются мужество и доблесть человека.

Предлагаю прочитать стихотворение «Заповедь» Р.Киплинга в переводе М.Лозинского всем, у кого в руках сегодня «Народная Воля».

Редьярд КИПЛИНГ

*Владей собой среди толпы смятенной,*
*Тебя клянущей за смятенье всех,*
*Верь сам в себя наперекор вселенной,*
*И маловерным отпусти их грех;*
*Пусть час не пробил, жди, не уставая,*
*Пусть лгут лжецы, не снисходи до них;*
*Умей прощать и не кажись, прощая,*
*Великодушней и мудрей других.*

*Умей мечтать, не став рабом мечтанья,*
*И мыслить, мысли не обожествив;*
*Равно встречай успех и поруганье,*
*Не забывая, что их голос лжив;*
*Останься тих, когда твое же слово*
*Калечит плут, чтоб уловлять глупцов,*
*Когда вся жизнь разрушена и снова*
*Ты должен все воссоздавать с основ.*

*Умей поставить в радостной надежде,*
*На карту все, что накопил с трудом,*
*Все проиграть и нищим стать, как прежде,*
*И никогда не пожалеть о том,*
*Умей принудить сердце, нервы, тело*
*Тебе служить, когда в твоей груди*
*Уже давно все пусто, все сгорело*
*И только Воля говорит: «Иди!»*

*Останься прост, беседуя с царями,*
*Будь честен, говоря с толпой;*
*Будь прям и тверд с врагами и друзьями,*
*Пусть все в свой час считаются с тобой;*
*Наполни смыслом каждое мгновенье,*
*Часов и дней неуловимый бег, –*
*Тогда весь мир ты примешь как владенье,*
*Тогда, мой сын, ты будешь Человек!*

**Валентина ПОЖИЛОВА.**

*г.Светлогорск.*

ВАНДРОЎКА

# У італьянцаў ёсць чаму павучыцца!

"Народная Воля" для маёй сям'і – гэта надзейны сябар, і як з лепшым сябрам мне хочацца падзяліцца з ёй тымі прыемнымі ўражаннямі, якія я зусім нядаўна атрымаў. Размова пойдзе пра маё падарожжа ў Італію. І газета "Народная Воля" мае да гэтага падарожжа прамое дачыненне. Дзякуючы змешчаным на старонках любімай газеты цікавым артыкулам, такім як "І плакала неба над Монтэ-Касіна…", "Монтэ-Касіна, не такая ўжо далёкая гара…", "Трагічны лёс заходніх беларусаў", у мяне з'явілася мара пабываць у гэтай паўднёваеўрапейскай краіне, ушанаваць памяць герояў, што палеглі ў бітве на Монтэ-Касіна. Дарэчы, пра яе я даведаўся ад свайго дзядзькі Юзэфа Лінкевіча, які ваяваў. У гэтай бітве загінуў яго сваяк.

Збіраючыся ў падарожжа, успомніў словы маёй мамы, простай сялянскай жанчыны, якая спазнала пакуты вайны, цяжкую працу ў Нямеччыне. Калі мая дачка збіралася ў першую ў сваім жыцці замежную камандзіроўку (дарэчы, у Італію), мама параіла ёй: "Паспрабуй хлеб, які ядуць тыя людзі, і паслухай, аб чым яны размаўляюць". Мама пайшла з жыцця ў 2011 годзе, але словы яе сталі запаветам і мне ў гэтым падарожжы. Колькі ў іх жыццёвай мудрасці і разам з тым прастаты!

З візай праблем не было, таму што з'яўляюся ўладальнікам карты паляка. А вось купіць білеты на самалёт не адважыўся. Калі ляцець з Мінска, яны каштуюць дорага. Затое ёсць добрая альтэрнатыва – з Варшавы ходзяць турыстычныя аўтобусы ў любую еўрапейскую краіну. За 100 еўра я змог набыць квіткі туды і назад.



На пачатку ліпеня ў Варшаве ў дарогу мяне праводзілі холад, дождж і вецер, а ўжо наступным днём у горадзе Арэцца мяне сустрэлі гарачае сонца, блакітнае неба і мой італьянскі гід.

Італьянцы ганарацца сваёй краінай. І маюць рацыю. Італьянская культурная спадчына не мае сабе роўных і па праве займае першае месца ў Спісе сусветнай спадчыны. Яшчэ да паездкі я акрэсліў для сябе месцы, у якіх хацеў бы пабываць: Рым, Ватыкан і, вядома, Монтэ-Касіна. Ужо па прыбыцці я ўнёс у гэты спіс карэктывы. Мяне чакалі гарады Перуджы і Асізі, а таксама Адрыятычнае мора. Дарэчы, быць у Італіі і не ўбачыць мора – недаравальная памылка. Можна многа гаварыць аб тым, як адпачываюць італьянцы, што яны ядуць, але словамі ніколі не перадасі тых уражанняў, якія склаліся ў мяне ад наведвання Адрыятыкі. Якім яно запомніцца мне, гэтае мора?



Ласкавым, цёплым, блакітным, казачна-фантастычным.

Горад Перуджы пакарыў мяне сваімі антычнымі вузкімі каменнымі вуліцамі і старадаўнімі храмамі. Гэта самы маленькі горад з тых, у якіх ёсць метро. Жыхары Перуджы яго называюць "міні-метро".

Глыбокае ўражанне засталося ад наведвання горада Асізі, які размясціўся ўсяго ў 26 кіламетрах ад Перуджы. Асізі – радзіма Святога Францыска Асізскага. У гэтыя мясціны прыязджаюць паломнікі з усяго свету. Убачыўшы адзін раз, гэты горад ужо не забудзеш ніколі.

Рым сустрэў нас велізарным вакзалам, вялікай колькасцю людзей. Усе бегаюць туды-сюды. Вельмі многа моладзі, напэўна, студэнтаў, а таксама турыстаў. Турысты ў Рыме паўсюль. Ды гэта і зразумела. На рымскай зямлі куды ні ступі – паўсюль помнік культуры, архітэктуры, музей пад адкрытым небам. Сэрца заміраe ад таго, што ты можаш любавацца ўсёй гэтай прыгажосцю, ад усведамлення, што ўсё адбываецца наяве. Але дарога вядзе мяне далей на поўдзень.

І вось настаў той дзень, калі я змог дасягнуць асноўнай мэты свайго падарожжа ў Італію. На машыне мы павольна паднімаемся ўсё вышэй і вышэй. Захоплівае дух ад гэтай вышыні, ад гор, ад паветра, у якім ёсць нешта сакральнае. І вось ён, запаветны мемарыял, збудаваны ў памяць герояў Другой Рэчы Паспалітай, а значыць, і маіх землякоў. Успамінаюцца словы польскага паэта Фелікса Канарскага з песні "Чырвоныя макі на Монтэ-Касіна": *"Смотри же! Увидишь с вершины – крестов этих белых не счесть"*. Магіла Матушака Роберта. Нарадзіўся ў Пінску ў 1908 годзе. Загінуў на Монтэ-Касіна 14 мая 1944 года. Хто ты, зямляк-герой, аб чым ты думаў у апошнія хвіліны свайго жыцця? Адзін з тых многіх, хто паклаў галаву пры штурме гітлераўскай цытадэлі.

Неба над Монтэ-Касіна сапраўды плакала. Я стаяў і думаў пра лёсы людскія, пра тых, хто знайшоў свой апошні прытулак у гэтай прыгожай, цёплай і ўсё ж такі чужой зямлі. Мае думкі перапыніў гук званочкаў. Непадалёку на лузе пасвілася жывёла. Гэты звон вярнуў мяне да думак больш зямных. Неабходна збірацца дадому.

На працягу ўсяго падарожжа я разважаў над тым, што некалі казала мая мама. Які ён, іх хлеб? Смачны, духмяны, з цвёрдай скарынкай, але… чужы. Родны хлеб смачнейшы, у ім праца маіх суайчыннікаў.

Аб чым гамоняць італьянцы? Любяць яны смачна паесці, модна апрануцца, жыццё яны любяць, пра тое і гавораць. Лічу, што нам ёсць чаму ў іх павучыцца: любіць і паважаць сваю гісторыю, ганарыцца ёю, берагчы і ўшаноўваць памяць продкаў; любіць саміх сябе і паважаць людзей вакол сябе. І гэтак жа, як яны, адкаркоўваючы бутэльку якаснага віна, радавацца сонцу, мору, жыццю.

**Леанід БЛІЗНЮК,**
**мастак, 67 гадоў.**

*г.Пінск.*

ОСТРЫЙ ВЗГЛЯД

# Если мы будем покорно молчать, Россия сотворит с нами все, что ей вздумается

Мне все не дает покоя публикация в «Народной Воле» за 4 мая, в которой рассказывалось о позорном поступке экс-идеолога Владимира Заметалина, публично назвавшего белорусский язык «долбаным». Я считаю, что таким господам, кочевникам с востока, надо давать достойный отпор.

Белорусский язык для нас родной, мы ни у кого ничего не заимствовали, не убивали и не грабили соседей. Чего не скажешь про Московию. После того как Александр Невский снюхался с кочевыми татарами и вместе с ними сокрушил Киевскую Русь с Черниговским княжеством, татарский язык стал в Московии государственным. Во всех художественных произведениях западных писателей эта страна называлась тогда Московской Татарией.

Лживая московская историография вдалбливала нам со школьной скамьи, что вот, дескать, у них в XIX веке появился прогрессивный царь Александр II и отменил крепостное право. Да, оно было отменено, но только для западных территорий (Литвы), где назревало крупное восстание. Крестьян же Московии загнали в общину, где драли с них по полной программе. Фактически это было рабство, и отменили его только в 1907 году.

После восстания 1863 года под руководством Кастуся Калиновского из Беларуси было вывезено почти все городское население. Остались орды русскоязычных чиновников, прибывших с востока. Наши деревенские жители, прибывая в города, попадали в русскоязычную среду. В Сибирь была вывезена вся мелкопоместная шляхта, составлявшая в то время да 30% населения. Хоть большинство таких шляхтичей отличалось от простых крестьян только тем, что вместе с вилами в навозе у них торчала сабля.

Потом на нашу землю пришло новое нашествие в виде коммунизма, который был нужен белорусам, как корове седло. Никто не помышлял осчастливить неимущих, обездоленные становились еще больше обездоленными. Эту заразу нам преподнес в подарок московский империализм, это был просто очередной имперский проект.

Большевики принесли на нашу землю неимоверные страдания. Еще в детстве я слышал воспоминания старых людей о периоде коллективизации. Однажды в очень сильный мороз власти заставили "кулаков" запрячь телеги и вместе с семьями прибыть на станцию. Стоял неимовернай вой. У деток отмерзали руки и ноги. А спрыгнуть с телеги и побегать запрещалось, чтобы не убежали…

В число раскулаченных попал и брат моего деда. Из лагерей он вернулся с полностью отмороженными ногами. Я в дошкольном возрасте видел его живым: лежал на кровати обрубок человека. Увидев меня, он расплакался. Я испугался и убежал на улицу...

После всех коллективизаций и раскулачиваний на нашу землю пришла новая напасть – Вторая мировая война. В 1941 году отступающая Красная армия имела жалкий вид. В нашей местности крестьяне взломали колхозные амбары и день и ночь варили зерно в больших чугунах, в которых раньше свиньям готовили. И вот из этих чугунов солдатики кормились. Люди спрашивали их: "А где же ваша техника?" На что получали ответ: "Сплошное предательство: из машин и танков кто-то посливал горючее. А начальство на своих легковушках удрало, оставив нас на произвол судьбы..."

Мне в этом году исполнилось 67 лет. Раньше я никогда не писал в газеты. Но меня очень возмущает хамское отношение господ, прибывших в Беларусь «на ловлю счастья и чинов», к нашему белорусскому языку, к нашим национальным символам и традициям.

Как-то я смотрел российский телеканал «Совершенно секретно», так там какая-то дама говорила, что ее тревожит активность белорусов в политическом плане. В той же передаче другой участник ссылался на Путина, который говорил, что российские границы в любое время могут быть отодвинуты.

Есть приверженцы таких идей и в Беларуси. И, поверьте, Заметалин далеко не одинок. Так что если мы будем покорно молчать, то Россия с нами может сотворить все, что ей вздумается.

**Виктор БУТЬКО.**

**Минск**

ДИПКУРЬЕР

# Владимир Макей познакомился с Дженнифер Мур



Глава Министерства иностранных дел встретился с Временным Поверенным в Делах Соединенных Штатов Америки в Беларуси. На встрече обсуждались состояние и перспективы развития белорусско-американских отношений.

Дженнифер Мур приехала в Минск в середине августа. Она является карьерным дипломатом. Перед приездом в Беларусь занимала должность замдиректора Управления по делам Южной Европы Госдепартамента США. Также она работала на разных должностях в политическом, военно-политическом и экономическом отделах в Посольстве США в Анкаре, Сараево, Багдаде и Джакарте.

Дипломат владеет русским, турецким, сербскохорватским, албанским и индонезийским языками.

Напомним, что с 2008 года в Беларуси нет Чрезвычайного и Полномочного Посла Соединенных Штатов Америки, работает лишь Временный Поверенный в Делах США.

**Вера ВИР.**

ПРОГНОЗЫ

# На рубль легли ожидания

22 августа США ввели новый пакет санкций против России: американским компаниям запрещено продавать России продукцию двойного назначения, которую можно использовать как военную. Запрещены поставки электроники и технологий для нефтегазовой отрасли. Новые ограничения официально связываются американскими властями с расследованием дела об отравлении экс-полковника ГРУ Сергея Скрипаля и его дочери Юлии в британском Солсбери. Госдепартамент вслед за Лондоном обвинил в отравлении Россию, заявив, что она нарушила нормы международного права, использовав химическое оружие.

Если Россия в течение 90 дней с момента введения санкций не предоставит гарантий, что не планирует использовать биологическое и химическое оружие в будущем и откажется сотрудничать с международными экспертами в деле об отравлении, будет введен второй пакет санкций. В него входит куда более серьезный список ограничений: будет введен запрет на кредитование российских компаний, рейсы «Аэрофлота» в США будут приостановлены, американская сторона может разорвать дипломатические отношения с Россией.

Российская валюта уже отреагировала на проект новых санкций в начале августа и сейчас продолжает свое падение. На сегодняшний день курс евро на торгах Московской биржи впервые с 2016 года превысил 78 рублей, курс доллара – 67 рублей.

Экономист Олег Буклемишев рассказал «Новой», что ждет российские рынки и рубль в связи с новым пакетом американских санкций.

– Сегодняшние санкции – это промежуточная стадия. Материально – это совсем небольшая порция относительно того, что уже введено. Проблема в том, что уже создана инерция постоянного ужесточения вводимых в отношении Российской Федерации ограничений. И, что касается второго основного пакета, сейчас у всех присутствует ожидание – «завтра лучше не будет, будет только хуже». Усугубляет эту ситуацию еще и то, что не совсем понятно, что России нужно делать, чтобы остановить это. В условиях – либо нигде не прописанные вещи, либо заведомо невыполнимые.

В чем должно покляться российское руководство и какие меры должны предпринять, чтобы тема вмешательства в выборы была снята с повестки дня? Или чтобы закрыть тему химического терроризма? Да, в условиях есть абсолютно неприемлемые вещи, связанные с мониторингом российских объектов, на что никогда Россия не соглашалась и, видимо, в этот раз тоже не согласится.

То, что происходит сейчас с рублем, – это реакция не на сегодняшние события, а скорее на перспективы санкционного процесса. Для его остановки по большому счету нужно формирование нового доверия к Российской Федерации, а почвы для этого пока не видно. Поэтому рублевые проблемы в будущем будут продолжаться. И, видимо, наша валюта будет шарахаться из стороны в сторону, тем более в свете относительно новой политики Центрального банка (введенной в действие в конце 2014 года).

Ведь Центральный банк в торги на валютном рынке не вмешивается. Поэтому нам гарантирована такая высокая волатильность.

Более того, рубль будет качаться из стороны в сторону в связи с новыми ожиданиями игроков и в том случае, если будут поступать новые негативные новости.

В частности, особенно важно, затронут ли ближайшие санкции приобретения иностранных инвесторов – российский долг, выраженный в рублях. Если это произойдет, конечно, рублю не поздоровится. Пока мы имеем дело только с ожиданиями.

Что касается второго пакета, скорее всего, он будет введен. С этим всем можно жить, и обходить то, что можно обойти, но в среднесрочном плане это все крайне болезненно. Это меняет поведение экономических агентов, которые видят воронку постоянного ухудшения ситуации с санкциями. И, по сути, это влечет нарастание издержек отечественных экономических агентов.

Санкции, на что бы они ни были направлены и какими бы умными ни были, все равно затрагивают российские юридические и физические лица. В конечном итоге все откликается этим лицам, ужесточая условия их жизни.

Соответственно, условия бизнеса будут хуже, частные лица будут жить тоже хуже в связи с введением новых санкций.

И это рецепт экономической стагнации – не инвестировать, не принимать далеко идущие решения на потребительском рынке. В таких условиях люди будут осторожничать, откладывать деньги на черный день, и это, конечно, нехорошо для существования в современном мире, который динамично развивается. Российское государство в то же время нам показывает пример того, как оно тоже старается как можно больше изъять и забрать средства, что путем НДС, путем пенсионных ограничений – это все приводит к зажиму хозяйственной ситуации с другой стороны.

«Новая газета».

У СОСЕДЕЙ

# Польша отпраздновала День Войска Польского

*День 15 августа 1920 года вошел в историю Польши как событие, принесшее стране независимость.*

В этом году в День Войска Польского в Варшаве прошел торжественный парад, высшее руководство страны отметило военный талант и мужество польских воинов, в 1920 году сделавших возможным «чудо над Вислой».

После Первой мировой войны с начала 1919 года между Советской Россией и Польшей велась необъявленная война. Тут и там на границе с Беларусью и Украиной вспыхивали военные конфликты, которые имели локальный характер. В планах Страны Советов не было свободной Польши, тогда как назначенный в ноябре 1918 года Начальником государства Польского **Юзеф Пилсудский** стремился возродить великую Речь Посполитую.

Настоящая война за независимость началась в 1920 году: Юзеф Пилсудский с польским войском двинулся на Киев. Однако к лету 1920 года положение дел Польши в войне с Советским Союзом было плачевным. Город за городом польское войско теряло свои позиции, а Красная армия триумфовала: 12 августа началось наступление Западного фронта, которым командовал **Михаил Тухачевский**, на Варшаву.



Но бесстрашие польских солдат, оптимизм и вера в победу, которая передавалась им от главы Генерального штаба польской армии **Тадеуша Розвадовского,** опытного военачальника и талантливого стратега, сделали невозможное. 18 августа Тухачевский отдал приказ об отступлении, но он уже не имел смысла: за день до этого Красная армия бросила позиции. Большевики признали поражение от польской армии.

Таким образом 15 августа 1920 года было положено начало празднику государства Польского – Дню Воина.

К слову, 15 августа в Польше отмечается Вознесение Пресвятой Девы Марии. И многие уверены, что победа в битве была достигнута именно благодаря покровительству Богородицы.

День Воина отмечался в Польше вплоть до 1947 года. Его правопреемником стал День Войска Польского, учрежденный в 1992 году и ставший государственным праздником Республики Польша.

*«И сегодня нам нужен тот боевой дух 1920 года, нам нужна стратегия уровня маршала Пилсудского, нужны современная техника и вооружения для польской армии, и сегодня нам необходима солидарность в рамках Североатлантического союза – НАТО»*, – сказал 15 августа 2018 года в дни празднования Дня Войска Польского министр обороны Польши **Мариуш Блащак**.

СТИЛЬ ЖИЗНИ

# Раздавили!

В Испании проходит ежегодный фестиваль уничтожения продуктов: здесь давят помидоры. В последнюю среду августа в городке Буньоль в провинции Валенсия проходит фестиваль Ла Томатина, на который собираются тысячи людей, чтобы от души пошвыряться помидорами друг в друга. В результате улицы Буньоля покрывают до ста тонн раздавленных томатов.

Начиная с 2013 года на этот эффектный фестиваль продают билеты – это отличная статья дохода для городка, численность населения которого составляет около 9000 человек. Примерно в 11 утра на центральную площадь Буньоля приезжают грузовики, до отказа заполненные томатами. Участники фестиваля до ночи бросаются помидорами, стараясь попасть в кусок ветчины, закрепленный на высоком деревянном шесте.

Вот во что превращаются улицы Буньоля.



ПЕЧАЛЬНАЯ ДАТА

# 30 августа отмечался Международный день пропавших

*В Беларуси политики **Юрий Захаренко, Виктор Гончар**, бизнесмен **Анатолий Красовский** и журналист **Дмитрий Завадский** исчезли при загадочных обстоятельствах.*









svaboda.org (RFE/RL)

Международный день пропавших без вести людей ежегодно отмечается 30 августа. Изначально с идеей посвятить эту дату пропавшим выступила в 1980-х годах латиноамериканская федерация родственников исчезнувших людей FEDEFAM, а позже день стал международным. Проблема пропавших без вести актуальна для Беларуси.

В этот день Красный Крест напоминает о том, что право родственников людей, пропавших без вести, знать о судьбе близких – это одно из главных положений международного гуманитарного права и прав человека. Оно действует независимо от того, когда и при каких обстоятельствах человек пропал без вести.

Бесчисленному множеству людей по всему миру не дает покоя исчезновение их родных. Пропавшие становятся для близких не живыми и не мертвыми. Их матери и отцы, жены и мужья, родственники и друзья не могут ни оплакать потерю, ни порадоваться возвращению своих любимых.

В этот день во многих странах проводятся мероприятия, которые призваны сохранить память о тех, чья судьба до сих пор не известна.

Количество пропавших без вести людей возрастает во время вооруженных конфликтов. В Беларуси нет войн и конфликтов, но четыре человека – политики Юрий Захаренко, Виктор Гончар, бизнесмен Анатолий Красовский и журналист Дмитрий Завадский – исчезли при загадочных обстоятельствах. Уголовные дела об их исчезновении не раз приостанавливали, а потом возобновляли. Родные и близкие уже потеряли надежду.

*«Никакого сдвига нет. Так, раз в квартал мне сообщают о продолжении следственных действий, присылают бумажку-отписку. Я не верю ни в какую работу следственных органов абсолютно»*, – цитирует сайт charter'97 Зинаиду Гончар, жену известного политика Виктора Гончара, который исчез в 1999 году.

Требования раскрыть правду о похищении этих людей содержатся в резолюциях Комиссии ООН по правам человека, Парламентской ассамблеи Совета Европы и ОБСЕ.

Мать пропавшего в 2000 году оператора российского телеканала ОРТ Дмитрия Завадского Ольга Григорьевна также не верит, что будут какие-то подвижки в деле сына:

*«Надежд у меня нет. На протяжении всех этих лет прокуратура не дает развернутого ответа на все вопросы. Одни отписки, в которых говорится, что проводятся какие-то следственные мероприятия, дело не закрывается, а приостанавливается. Нам ни разу не дали ответа, какие же мероприятия проводились и к каким результатам они привели»*.

В семьях Виктора Гончара и Дмитрия Завадского без отца выросли и повзрослели сыновья, у Анатолия Красовского – дочери. Семья пропавшего экс-министра внутренних дел Юрия Захаренко была вынуждена уехать в Германию.

АТЫ-БАТЫ

# Грузия проверяет боеготовность

*Международные командно-штабные учения «Проворный дух 2018» пройдут в Грузии 1–11 сентября. Об этом сообщает Грузия Online.*

Учения, организованные совместно с европейским командованием корпуса морской пехоты США, будут проходить на территории военной базы в Сенаки на западе Грузии.

В учениях принимают участие военные из 10 стран мира. Помимо Грузии и США, будут участвовать военнослужащие из Болгарии, Румынии, Латвии, Греции, Украины, Турции, Чехии и Эстонии.

Целью учений является повышение уровня готовности к совместным операциям сил быстрого реагирования НАТО или реагирования на кризисы, а также улучшение оперативных возможностей командного звена, планирования операций и их проведения.

В начале августа в Грузии прошли многонациональные учения Noble Partner 2018 («Достойный партнер 2018»), участие в которых приняли более 3 тысяч военнослужащих из 13 стран. В учениях участвовала военная техника и авиация США, включая танки «Абрамс» и вертолеты «Апач».

